# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

Выдаюць: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы
Саюз Беларуска - Амэрыканскае Моладзі

18

# BYELORUSSIAN YOUTH

Published by: Byelorussian Youth Association of America
Byelorussian - American Youth Association

1963

## ЗЬМЕСТ




**Рэдакцыйная калегія й адміністрацыя:**

М. Бахар

Я. Запруднік

В. Кіпель

В. Мельяновіч

М. Палюховіч

М. Сенька

В. Станкевіч

Ю. Станкевіч

В. Цярпіцкі

Л. Шурак

**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**ЗША**

Miss Helen Lukjanczuk, 2560 W. 10th St., Cleveland 13, Ohio
Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Ill.
Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave., Detroit 3, Mich.
Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ont.
Mr. J. Babrouski, 1008 Dovercourt Rd, Toronto, Ont.
Miss M. Ignatau, 7808 Birman St., Montreal, Que.

**Ангельшчына**

Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6

**Бэльгія**

Mr. M. Streczyn, Place Hoover 19, Louvain

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria
MrMr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.

**Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на:**
"BYELORUSSIAN YOUTH"

Text in English and Byelorussian. Four times a year. Supplements issued irregularly.

**Увага! Увага!**

**Усю карэспандэнцыю, зьвязаную з часапісам, просім слаць на:**

*Byelorussian Youth*
*P. O. Box 4357*
*Grand Central Station*
*New York 17, N. Y.*


# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ


**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**
**Выдаюць: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**
**Саюз Беларуска - Амэрыканскае Моладзі**
**Рэдагуе: Калегія**

**Год. выд. V. КРАСАВІК—ЧЫРВЕНЬ 1963 № 18**


## НА ГРАМАДЗКІЯ ТЭМЫ

Дзьве вядучыя амэрыканска - беларускія арганізацыі — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) й Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі — выдалі ў травені сёлета супольны зварот да беларуска-амэрыканскага грамадзтва. У звароце кажацца, што падзел на групы сярод беларускай эміграцыі ЗША перашкаджае эфэктыўнай рэпрэзэнтацыі беларускай справы перад вонкавым сьветам; што сярод Беларусаў Амэрыкі ёсьць моцнае імкненьне да кансалідацыі нацыянальных сілаў ды што на парадку дня стаіць „стварэньне аднаго органу, выбранага праз усе існуючыя беларуска-амэрыканскія арганізацыі ды ўстановы, для рэпрэзэнтацыі навонкі ды абароны інтарэсаў Беларусаў ЗША й дапамогі беларускаму народу на паняволенай Беларусі". Зварот падпісаны Старшынём Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі І. Касяком і былым Старшынём Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня К. Мерляком. Зварот просіць усіх „неадкладна выказацца" на тэму закранутых у ім пытаньняў. Мы робім гэта, памятаючы, бязумоўна, што ў міжчасе адбыўся чародны кангрэс БАЗА, які паставіў на чало арганізацыі новага Старшыню, і новую Галоўную Управу.

Вось-жа мы ўважаем, што зварот выдадзены ў вадпаведным часе. Пра „задзіночаньне" ў нашым грамадзтве гаварылася ўжо даўнавата. Канкрэтныя-ж крокі да задзіночаньня пачаліся, аднак, нядаўна: дзьве арганізацыі моладзі пачалі выдаваць супольны часапіс, па некаторых гарадох і краінах грамадзкія арганізацыі пачалі ўпяршыню ладзіць супольныя сьвяткаваньні й выступы навонкі. Такім канкрэтным крокам на цяжкім шляху да задзіночаньня трэба ўважаць і названы „зварот". На нашую думку падобных канкрэтных праяваў павінна быць яшчэ цімала, бо толькі дзеючы супольна, працуючы супольна працягам ладнага адрэзку часу, разрозьненыя арганізацыі здолеюць ахапіць і высьніць усе праблемы ды спрэчныя пытаньні, і адно пасьля пэрыяду супольнага супрацоўніцтва можна будзе прыступіць да стварэньня аднаго выбарнага органу, для рэпрэзэнтацыі беларускае палітычнае эміграцыі.

Паважным дасягненьнем у тым-жа кірунку зьяднаньня бела-

J. W. FULBRIGHT, ARK., CHAIRMAN

JOHN SPARKMAN, ALA. — BOURKE B. HICKENLOOPER, IOWA
HUBERT H. HUMPHREY, MINN. — GEORGE D. AIKEN, VT.
MIKE MANSFIELD, MONT. — FRANK CARLSON, KANS.
WAYNE MORSE, OREG. — JOHN J. WILLIAMS, DEL.
RUSSELL B. LONG, LA. — KARL E. MUNDT, S. DAK.
ALBERT GORE, TENN.
FRANK J. LAUSCHE, OHIO
FRANK CHURCH, IDAHO
STUART SYMINGTON, MO.
THOMAS J. DODD, CONN.
GEORGE A. SMATHERS, FLA.

CARL MARCY, CHIEF OF STAFF
DARRELL ST. CLAIRE, CLERK

**United States Senate**

COMMITTEE ON FOREIGN RELATIONS

May 7, 1963

Mr. Walter Stankievich
Byelorussian Youth Association of America
390 Morris Avenue
Summit, New Jersey

Dear Mr. Stankievich:

Ethnographic people everywhere are properly asserting the right to independence and to freedom on the basis of their individuality as a people.

I do know that the Communist broadcasters in Moscow have criticized me for the statements which I have made about the right of the Byelorussians to govern themselves as a sovereign and independent group.

The spokesmen advocating freedom and emancipation from tyranny and oppression should not and will not be silenced by the attacks which are made upon them by Communist Moscow. The Byelorussians under Communist dictatorship are forcibly silenced; they are not allowed to speak nor assert their rights as a free people under threats of being charged with treason against Communist dictatorship and tyranny. Inasmuch as they cannot speak, it becomes the responsibility of the leaders in the fight for liberty to speak the words that the Byelorussians would like to speak but cannot do so because of the circumstances under which they live.

I urge the "Byelorussian Youth" to keep reminding the citizenry of the United States of the oppression and exploitation that the Byelorussians are suffering under the Communist oppressors.

Sincerely yours,

Frank J. Lausche

FJL:cmj
p

**Ліст ад сэнатара Ф. Ляўшэ, атрыманы нашым часапісам.**

---

рускае палітычнае эміграцыі ў ЗША, трэба ўважаць і набыцьцё беларускага адпачынковага цэнтру Бэлэр-Менск у штаце Нью Ёрк. Гэты цэнтр стаўся маемасьцяй у с я г о беларускага грамадзтва ЗША і Канады.

Мы лічым, што наступным канкрэтным крокам на шляху да запраўднае нацыянальнае супольнасьці было-б заснаваньне ў ЗША супольнага друкаванага органу — с у п о л ь н а г а, падтрыманага ўсімі беларуска-амэрыканскімі арганізацыямі.

*Рэдкалегія БМ*










**Амэрыканскія вэтэраны ў Дэнвэры, Калярадо, ушаноўваюць Тыдзень паняволеных народаў дэфілядай нацыянальных сьцягоў. Першы справа — бел-чырвона-белы сьцяг Беларусі.**

---

**Сэнатар К. Кітынг працу беларускае моладзі ацэньвае наступнымі словамі:**

To the Byelorussian Youth Association of America

With my warm regards & deep appreciation for the fine work you do

Ken Keating USS (NY)

*„Згуртаваньню Беларускае Моладзі Амэрыкі*
*Зь цёплымі прывітаньнямі й высокай*
*ацэнай Вашае выдатнае працы.*

*К. Кітынг, сэнатар ад штату Нью-Ёрк."*

# 25 САКАВІКА У АМЭРЫЦЫ

Сёлета Беларусы Амэрыкі больш урачыста, чымся мінулымі гадамі, адзначылі 45-я ўгодкі абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі. Усюды ў сьвяткаваньнях вельмі актыўны ўдзел узяла нашая моладзь, сябры ЗБМА, СБАМ і студэнцкіх арганізацыяў. Ніжэй зьмяшчаем кароткі агляд сьвяткаваньня на аснове паведамленьняў нашых карэспандэнтаў.



**Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Л. Джонсан прыймае ў Сэнаце беларускую дэлегацыю з нагоды Дня Беларускае Незалежнасьці.**

**У Кангрэсе ЗША**

У дзень 25 сакавіка ў Амэрыканскім Кангрэсе наступныя асобы зрабілі заявы з нагоды 45-х угодкаў Незалежнасьці Беларусі: сэнатар Мансфілд ад імя сэнатара Ляўшэ, кангрэсмэн Дэрвінскі ад імя кангрэсмэна Гудлінга, кангрэсмэны Родыно, Скат, Джолсан, Патэн, Дынгел, Малтэр, Дадарыё, Грын. У сваіх заявах сябры Кангрэсу адзначылі багацьце гістарычнай мінуўшчыны нашага народу, расказалі пра змаганьне Беларусі за сваю незалежнасьць ды выказалі веру, што гэтае змаганьне ўкарануецца перамогай.

1 красавіка Архіепіскап БАПЦ Уладыка Васіль, з нагоды 45-х угодкаў Незалежнасьці Беларусі, прачытаў у Сэнаце малітву за Беларусь. Беларуская дэлегацыя, у склад якое ўвайшоў таксама сябра ЗБМА Міхась Казьляkоўскі, была прынятая Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША Джонсанам і сэнатарамі.

**Заява сэнатара Ф. Ляўшэ**

Сэнатар Фрэнк Ляўшэ ад штату Огаё зрабіў у Сэнаце ў сувязі з угодкамі Беларускае Незалежнасьці заяву, у якой сказаў наступнае:

„Вякамі Расейцы рабілі ўсё магчымае, каб зьнішчыць Беларусаў як апрычоную нацыянальную цэласьць. Але мы ведаем зь гісторыі, што беларускі народ быў асобнай нацыянальнасьцяй паміж Польшчай і Масквой задоўга да таго, як Расея сталася калёсам славянскага сьвету.

„Царскім кіраўнікам Расеі не ўдалося зьнішчыць беларускае этнічнае групы. Чым больш расейскія валадары прыгняталі Беларусаў, тым больш Беларусы трымаліся сваіх нацыянальных ідэалаў і прагнулі вызваленьня. Яно й прыйшло ўвесну 1918 году...

„...У дзень 45-х угодкаў Беларускае Незалежнасьці мы горача молімся за збаўленьне Беларусаў ад савецкае тыраніі. Хацелася-б таксама, каб мы памаглі больш гэтаму народу змагацца з камуністычным таталітарызмам..."



To the Byelorussian Youth Association
and to their beloved Archbishop
Every good Wish always and all Ways,
Frederick Brown Harris
Chaplain, U.S. Senate



**Лідэр Рэспубліканскае партыі Сэнату Э. Дырксэн у гутарцы зь беларускай дэлегацыяй у Вашынгтоне.**

*"... Я заклікаю „Беларускую Моладзь" бязупынна напамінаць грамадзтву Задзіноганых Штатаў аб прыгнятаньні й эксплуатацыі, якія Беларусы церпяць пад камуністычнымі паняволькамі".*

*Сэнатар ЛЯЎШЭ*

**У Нью - Ёрку**

Напярэдадні сьвяткаваньня, 23 сакавіка, праз радыястанцыю WLIB, дзякуючы спадарству Кенскім, была перададзеная сьвяточная праграма, што складалася зь інфармацыі аб Акце 25 Сакавіка, весткаў аб сьвяткаваньні й беларускіх патрыятычных песьняў. Перадачу зрыхтавалі сябры ЗБМА Міхась Казьлякоўскі й Янка Запруднік.



**Сьвята Беларускае Незалежнасьці ў Нью-Ёрку ў гатэлі „Білтмор". Агульны выгляд залі.**

Самое сьвяткаваньне, што адбылося ў нядзелю 24 сакавіка ў гатэлі „Білтмор", было асабліва ўрачыстым і людным. Ладзілася яно супольна Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі й Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем. Атмасфэра дружбы й уздыму захапіла ўсіх — навет іншанацыянальных гасьцей, якія ў сваіх прамовах хвалілі Беларусаў за згоду й супольнасьць.

Сьвята Незалежнасьці разам зь Беларусамі адзначылі прадстаўнікі наступных нацыянальнасьцяў і арганізацыяў: Альбанцаў, Баўгарцаў, Вугорцаў, Грузінаў, Гіндусаў, Казакоў, Палякоў, Паўночных Каўкасцаў, Украінцаў, Харватаў; Антыбальшавіцкага Блёку Народаў, Аасамблеі Паняволеных Эўрапейскіх Народаў, Камітэту Паняволеных Народаў СССР, Канфэрэнцыі Амэрыканцаў Усходня-Цэнтральнай Эўропы. Губэрнатар штату Нью-Ёрк Нэлсан Рокэфэлэр і мэр места Нью-Ёрк Робэрт Вагнэр абвесьцілі дзень 25 сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці.

Актыўны ўдзел у праграме сьвяткаваньня ўзялі сябры нашых абедзьвюх арганізацыяў моладзі.

**Зьвярнеце ўвагу на новы адрыс „Беларускае Моладзі" (гл. вокладку) !**





**Беларускі хор із Саўт-Рывэру пад кіраўніцтвам кампазытара Верасава на сакавіковым сьвяце ў Нью-Ёрку.**



**Беларуская дэлегацыя ў мэра гор. Пасэйк сп. П. Дэ Муро.**

**У Пасэйку, Н. Дж.**

Беларуская калёнія Пасэйку ўжо ад колькіх год мае ў васобе мэра гораду сп. П. Дэ Муро блізкога прыяцеля. Сп. Дэ Муро штогоду абвяшчае дзень 25 сакавіка „Днём Пасэйку". Сёлета 24 сакавіка мэр Дэ Муро прыняў беларускую дэлегацыю й даручыў на рукі інж. Э. Ясюка праклямацыю Дня Беларускае Незалежнасьці ў Пасэйку. Прадстаўнічка беларускае моладзі Рагнеда Жамойда перадала мэру падарунак ад Беларусаў — крават зь беларускім нацыянальным вузорам. 27 сакавіка над гарадзкой управай Пасэйку быў узьняты беларускі штандар.

**У Чыкага, Іл.**

Як і мінулымі гадамі, у сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці актыўны ўдзел узяла арганізацыя моладзі АБАМСІ. Дзякуючы належным стараньням, губэрнатар штату Іліной сп. Отто Кернэр і мэр гораду Чыкага сп. Рычард Далі абвесьцілі дзень 25 сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці й штаце Іліной і Чыкага. Стараньнямі Беларускай Нацыянальнай Рады над гарадзкой управай Чыкага 24 і 25 сакавіка вісеў беларускі сьцяг.



Напярэдадні сьвяткаваньня 22 сакавіка, праграма радыя „Нёман" была прысьвечаная ўгодкам Беларускае Незалежнасьці. Моладзь прачытала рэфэрат пра Акт 25 Сакавіка ды дала шэраг патрыятычных і нацыянальных песьняў, а іншыя беларускія арганізацыі падалі свае абвесткі аб сьвяткаваньні.

Ува ўсю англамоўную й чужамоўную прэсу Чыкага былі павысланыя лісты зь інфармацыяй аб Беларусі й 25 Сакавіка. Шмат якія газэты зьмясьцілі артыкулы аб Беларусі. Былі павысыланыя таксама лісты Прэзыдэнту ЗША, сэнатарам і кангрэсмэнам штату Іліной. Галоўны націск рабіўся йзноў на ўлучэньне беларускае мовы ў праграму „Голасу Амэрыкі". Усе сэнатары й кангрэсмэны паставіліся вельмі прыхільна, некаторыя зь іх зрабілі ў Кангрэсе заявы пра Незалежнасьць Беларусі.



**Беларускія дзеці на сьвяткаваньні 25 сакавіка ў Чыкага.**

**У Кліўлендзе, Огаё**

Сьвяткаваньне ладзіў аддзел БАЗА 31 сакавіка. У мастацкай частцы пад кіраўніцтва сп. К. Кіслага моладзь узяла актыўны ўдзел. Выступалі хор моладзі й ведамая салістка Іра Каляда — пад акампанімэнт праф. Бонтэмпо. Салісты Коля Стрэчань удала дэбютаваў пад акампанімэнт школьнае аркестры з „Зоркай Вэнэрай". Выступалі школьнікі з дэкламацыямі. Сьвяткаваньне прайшло вельмі прыгожа.

**У Нью - Брансўіку, Н. Дж.**

У дзень 25 сакавіка ў Нью-Брансўіку й Саўт-Рывэры былі афіцыйна ўзьнятыя беларускія сьцягі. Мэры абодвух гарадоў, як і губэрнатар штату Нью-Джэрзы, адмысловымі праклямацыямі абвесьцілі дзень 25 сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці.





**Узьняцьцё беларускага сьцягу ў Нью-Брансўіку, Н. Дж.**

Самое сьвяткаваньне, ладжанае аддзелам БАЗА, адбылося 31 сакавіка. У сходзе грамадзтва ўзялі таксама ўдзел мэры Нью-Брансўіку й Саўт-Рывэру. Мастацкая частка сходу была выкананая сіламі моладзі.

**Савецкая рэакцыя**

Савецкі друк і радыё войстра зарэагавалі на сьвяткаваньні ў Амэрыцы Дня Беларускае Незалежнасьці. Савецкае тэлеграфнае агенцтва ТАСС апублікавала выпад супраць сэнатара Ляўшэ за ягоную заяву ў Кангрэсе пра Незалежнасьць Беларусі. Артыкул быў выкарыстаны савецкай прэсай. Перадрукавала яго й выдаваная для беларускае эміграцыі газэтка „Голас Радзімы", дадаўшы да ТАСС-аўскага артыкулу й свае два ў №№ 28 і 34 — таксама супраць сэнатара Ляўшэ.

Не прамінуў савецкі беларускі друк і Тыдня паняволеных народаў. У газэце „Зьвязда" ад 18 ліпеня, у артыкуле „Плакальшчыкі", хтосьці Крыцкі, праліўшы кракадзілавы сьлёзы па некаторых „шматпакутных" народах Афрыкі й Азіі, злосьціцца, што ЗША уважаюць Беларусь за каляніяльны край. Асабліва-ж дапякае аўтару тое, што „нават віцэ-прэзыдэнт Джонсан па-бацькоўску прыймае, улагоджвае ваенных злачынцаў, а той-сёй з сэнатараў ня супраць праліць і сьлязу над сумным лёсам некаторых зь іх."

**У Саўт-Рывэры, Н. Дж.**



**Узьняцьце беларускага сьцягу ў Саўт-Рывэры ў Дзень Беларускае Незалежнасьці.**

Крыцкі кажа, што ён ня ведае, „колькі арганізатарам так званага „тыдня заняволеных народаў" удасца падкупіць і выцягнуць на вуліцу „плакальшчыкаў", якія будуць цэлы тыдзень аплакваць нас." Але мы ведаем затое, што за пастановай Амэрыканскага Кангрэсу 1559 г., якой быў абвешчаны „Тыдзень паняволеных народаў" (Public Law 86-90) стаіць цэлая Амэрыка й увесь вольны сьвет, бо гэта адзін з найвялікшых дакумэнтаў волялюбнасьці.

# MASIEJ SIADNIOU



The poet Masiej Siadnioŭ was born on September 1, 1915 in the region of Mahileŭ (Mogilev). He studied at the Byelorussian State University in Miensk. He started to write in 1937. For five years in the Thirties the poet was in Soviet concentration camps.

Mr. Siadnioŭ now resides in the United States. He occupies a teaching position and is also a researcher in Slavic studies. Several collections of his works were published in the West after World War II. Siadnioŭ's poetry is subtle and introspective, adding a new charm to the Byelorussian literature.

**Масей Сяднёў**

## ЗАМІЖ ЖЫЦЬЦЯПІСУ

Паважаная рэдакцыя часапісу „Беларуская Моладзь" зьвярнулася да мяне з просьбай напісаць свой жыцьцяпіс. Ясная рэч, такой просьбы я ня мог адхіліць, і вось паспрабаваў яшчэ раз „крануць" тое сваё жыцьцё. Пасьля даўгога роздуму я прыйшоў да выснаву, што пісаць свой жыцьцяпіс я прост не магу, што гэта вышэй маіх сілаў. І то пераважна з дзьвюх прычынаў: першае, я не такая ўжо калярытная асоба, каб выстаўляць сябе і назаляць чытачу сабою; другое, пісаць пра сябе — гэта як грэх для мяне. Пісаць пра сваё асабістае — гэта значыць пайсьці на споведзь, а для публічнай споведзі я не гатовы, хоць і хацеў-бы паспавядацца. Абяцаю зьісьціць гэта наступным разам. Адылі я добра ведаю, што пасьля публічнай споведзі чуўся-б як абкрадзены, не зважаючы на ўсю добраахвотнасьць такой споведзі. Зрэшты, маю споведзь можна знайсьці ў маіх вершах. Як мне здаецца, цяжка ўявіць сабе больш „асабістыя" вершы, як мае. І ў гэтым якраз, я думаю, іх найбольшая вартасьць і значаньне. На іх я й хацеў-бы, выбачайце, зьвярнуць увагу тых, хто запраўды цікавіцца мною. Мае вершы — найлепшы мой жыцьцяпіс, няхай сабе і ў нязвычайнай форме — паэтычнай. У маіх вершах, бязьлітасна шчырых, зьмясьцілася ўсё лепшае ад мяне.

Чаму я сказаў, пісаць пра сябе — гэта як грэх для мяне? Зразумела, пісаць шчыра, бо толькі гэтак я разумею ідэю жыцьцяпісу. „Афіцыйны" жыцьцяпіс нічога не навучыць, ён добры для хрэстаматыі, а я якраз найменш „хрэстаматычны" паэта, калі паэта наагул. Дык — шчырасьць. Што такое шчырасьць для мяне ў пляне асабістым, а не ў мастацкім? Як я сказаў ужо — споведзь у найсьцісьлейшым, калі хочаце — рэлігійным разуменьні. Споведзь як боль, як радасьць, як грэх. Споведзь, ад якой-бы лягчэй стала, споведзь як усьведамленьне самога сябе і іншых, споведзь як ачышчэньне і прымірэньне. А гэтага я не магу зрабіць „адчынена", франтальна, хіба толькі апасярэджана — у мастацкай форме, а мастацтва, хоць і вышэйшая форма споведзі — усё-ж занадта агульнае на гэта. Ды й такой споведзі ніхто не патрабуе ад мяне — яна нікому не патрэбная, тым балей моладзі, хоць і вельмі патрэбная, з другога боку. Такую раскошу часамі мог-бы яшчэ дазволіць сабе ў выпадку нейкай „геніяльнасьці" аўтаравай. Дзякаваць Богу, да такіх аўтараў мы не належым. Мы прост адзін із шмат якіх, як кажуць, культурных працаўнікоў на паэтычнай ніве, і ў якасьці такога, заміж жыцьцяпісу, як чалавечага дакуманту, скажам колькі словаў аб гэтай ніве, і то ў аспэкце асабістым, ня прэтэндуючы на непамыльнасьць нашага пагляду. Вось гэта і ўся пакуль „філязофія" жыцьцяпісу.

„Беларуская моладзь", я ведаю, хацела-б найперш падаць мяне на сваіх шпальтах як, скажам, „ахвяру бальшавізму" (як гэто ўжо і было ў выпадку Ул. Жылкі), а потым ужо як паэту. Супраць такой „падачы" я, зразумела, нічога ня маю (я адзін з такіх ахвяраў), але гэны прывілей можна было-б пакінуць беларускім савецкім часапісам, на чыіх балонках шмат якія ахвяры бальшавізму запраўды павінны былі-б расказаць усяму свайму народу поўную праўду аб сваіх пакутах на выгнаньні, а не выхваляцца заміж гэтага сваймі „заслугамі" перад бальшавізмам, які іх нішчыў і зьнішчыў.

***

. . . Я змалку хацеў быць паэтам, дакладней — стваральнікам песьняў, якія-б сьпяваліся найперш у маёй-жа вёсцы, каб праз іх стацца „галавой" (чытай „разумнай"), песьняром. Мацней гэтага жаданьня нічога ня было. Вышэй гэтага паняцьця нічога ня йснавала. Ідэю „паэты" засьвяціў у мяне бацька, зусім няпісьменны чалавек, але які ўмеў „чытаць" газэты й кніжкі, пераважна на вясельлях, на якіх ён граў на скрыпцы й „бандуры". П'янаваты, ён браў у рукі (часта навет дагары) газэту ці кніжку (што пападаецца) і, стоячы пасярэдзіне хаты, пачынаў сваю ведамую ўжо ўсім „чытку". Водзячы па радкох вачыма й не разумеючы іх, ён імправізаваў, складаў што-небудзь „сьмешнае", пераважна аб людзях, што былі тут-жа, ці аб якім іншым мясцовым здарэньні. Бацькава мастацтва „чытаць" брала ўсіх за жывое — яно даводзіла слухачоў да скрайняй узбуджанасьці — сьмеху ці сьлёзаў, у залежнасьці ад „тэмы". Калі я быў на Кальме, бацька, падвыпіўшы, на танцах моладзі ў калгаснай канцылярыі, вышэй згаданым спосабам „вычытваў" з газэтаў і пра мяне, знарок „засмучаў" моладзь — яму было вельмі крыўдна, што ня было мяне на гэтых танцах разам з маймі равесьнікамі.

Жанчыны, асабліва старэйшыя, не маглі ўстрымацца ад сьлёзаў. Але досыць „споведзі". Бацькава ідэя песьняра ўпала іскрачкай на ўзрошчаную матчынай жаласьлівасьцяй „лірычную" аснову майго нутра й запаліла ў мяне ціхі, смутны агенчык натхненьня.

Праблемы беларускасьці для мяне ня йснавала — я вучыўся ў беларускай школе і ўспрыняў яе як дадзенае, як паветра, як сонца й як хлеб. Долю беларускага паэты я атрымаў нясьведама, без змаганьня — у спадчыну. Яна напаткала мяне сама. Толькі калі мяне арыштавалі, я

**сьведама** захацеў быць **беларускім** паэтам. Выходзіць, турма пайшла мне на карысьць? Не, тысячу разоў не! Я пабачыў, што за спадчыну, якую я атрымаў, я мушу дорага плаціць, якбы за незаконную спадчыну, атрыманую не па праву. Гэта прычыніла боль. Непераможаны боль. Адсюль пачынаецца мая трагедыя як паэты, і як чалавека. Мая „паэтычная" доля, як я пераканаНы, вызначыла ня толькі мой асабісты лёс, але й лёс блізкіх маіх. Гаварыць падрабязна пра гэтую долю, зноў значыла-б — спавядацца.

Што я думаю пра сябе як паэту? Першае, я не апраўдаў гэтае годнасьці. І мне навет сорам цяпер бывае ад усьведамленьня, што я — нібы паэта. Усьведамленьне высокасьці паняцьця „паэты" й немагчымасьць зрэалізаваць гэтую „высокасьць" — адна з маіх болек. Адсюль — пачуцьцё паэтычнай нікчэмнасьці. Але гэтае пачуцьце не абсалютна сталае. Як, магчыма, інстынкт самазахаваньня („нас возвышающий обман"), але вельмі рэдка нахлынае радаснае хваляваньне ад усьведамленьня свае вартасьці як паэты, аж да эгацэнтрызму й мэгаляманіі. І тады выдаецца, што ты паэта запраўды. Наракаеш толькі, што твае сучасьнікі не заглянулі, як належыцца, у твой скарб і не адчынілі цябе. І гэта, мне здаецца, у нейкай ступені слушна. Часамі выдаецца, што ў тваіх вершах адбілося усё — і час, і мы, што ў іх ёсьць навет „праблемнасьць", толькі лянота нашая й інэртнасьць не заўважаюць гэтага. Але пачасе зноў усё гэта бярэш пад сумлеў. І так бясконца. Другое, трэба тут сьцьвердзіць прост гістарычны факт — беларускі паэта ня мае чытача. Ня ведаю, хто ў гэтым вінаваты, але пабеларуску ён не ўзгадаваны. І таксама — самой нашай літаратурай.

Тут віна й крытыкі ёсьць. Дасюль яна, гаворачы пра літаратуру, цікавілася ёй з пазыцыяў пераважна нашага, так-бы сказаць, палітычна-фізычнага статусу і не ўзгадоўвала чытача эстэтычна. Іншая рэч — сама нашая літаратура „малаэстэтычная". Але з другога боку — у гэтым яе й сіла.

Хоць гэта й зразіць шмат каго, у душы залічаю сябе да ліку тых працаўнікоў у нашай літаратуры, якія якраз „павышаюць" эстэтычны ўзровень беларускага слова, варочаючь яму ягоную першапачатную сілу, страчаную на „ідэялёгію", але ў гэтым я ня пэўны — хацеў-бы паслухаць нашую крытыку. Між іншага, крытык А. Адамовіч, як мне здаецца, стаяў на правільнай дарозе у вацэне майго „паэтычнага экспірыенсу" ў вартыкуле, зьмешчаным сваім часам у „Конаднях", але на жаль не даведзеным да канца. Я замала напісаў. Напісанае на неаднолькавым узроўні. Быўшы студэнтам, лятуцеў стварыць хоць-бы адзін томік запраўднай паэзіі і ўвайсьці зь ім у нашую „неэстэтычную" літаратуру. Із сваймі сябрамі мы „ачышчалі" навет Янку Купалу да памераў аднаго томіку (хай нам даруе нябожчык). Засьцерагаюся — я не за „эстэцтва" і ўжываю гэты тэрмін умоўна. Навет „эстэцтва" Багдановіча — бязумоўна пройдзены у нас этап.

І па сяньня застаецца тая мая студэнцкая (не баюся гэтага слова) **амбіцыя** — выдаць томік паэзіі, які-б стаўся нечым накшталт паэтычнага малітоўніка ў чытача.

Што мы маем у нашым літаратурным выгнаньні? Як ведама, ня шмат, нажаль, ня шмат, на правялікі жаль. Але й тое, што маем, намі не „падната" й ня ўзята, як кажуць, на ўзбраеньне. Добра было-б, каб „Беларуская моладзь" пачала ў нейкай форме „адшукваць" нашых паэтаў і пісьменьнікаў. Прыкладам, ня цалкам выдадзеная ў нас Арсеньнева — гэта проста злачынства. І гэта не адзіночны факт.

А што на Бацькаўшчыне? Радуецца сэрца, што не зьвяліся там таленты, навет часамі дзіву даешся, як яны яшчэ йдуць у нашую там літаратуру. Пясьнярская краіна наша Бацькаўшчына! Але рух нашай літаратуры ў прыродным кірунку яе спынены, і нашыя там таленты марнуюцца. Ёсьць літаратура наагул, але няма беларускай.

Пляны? Хацеў-бы напісаць свайго „Корзюка", без прэтэньсіі на вялікую літаратуру, а толькі невялікую, чытальную кніжыцу прозы. І яшчэ — драматычны твор у паэтычнай форме з нашай мінуўшчыны, з прэтэнсіяй на выяўленьне нашага нацыянальнага эрасу, як любіць гэта выражаць А. Адамовіч.

Дазволю сабе нашую гутарку ў сувязі з маім жыцьцяпісам скончыць і пажадаць часапісу „Беларускай моладзі" супрацоўніцтва з нашымі паэтамі й пісьменьнікамі, не зважаючы на невялікую плошчу гэтага выданьня.

23. 5. 1963 г.

---

**СЯБРОВЕ ВАКОЛІЦАУ НЬЮ-ЁРКУ! БЕЛАРУСЫ ЗША!**

Адведвайце! Замаўляйце беларускія кніжкі, часапісы, газэты, віншавальныя карткі, кружэлкі ў кніжным кіёску ЗБМА.

Каталёгі новых выданьняў высылаюцца на запатрабаваньне.

У кіёску можна таксама набыць зборнікі твораў М. Сяднёва.

Адрас кіёску:

KIOSK ZBMA
401 Atlantic Avenue,
Brooklyn 17, N. Y.

## МАЙМУ ВЕРШУ

. . . Ды ты усё яшчэ жывеш,
хоць ліхалецьце, хоць пагроза.
А я пасьпеў, пакутны верш,
цябе ўжо прамяняць на прозу.

Радкі мае, я клікаў вас,
і, паслухмяныя, ішлі вы.
І доўга мой лірычны сказ
яшчэ ня гаснуў, варушлівы.

Зарэў, адсьвечваўся душой
маёй, то сумнай, то узьнёслай,
вячэрняй таямнічаю цішой,
чаканай, млоснай.

Цьвіценьнем белым ліп,
і голасам пяшчотным маці.
Аж покуль на цымэньце не ахрып
у строгім казэмаце.

Аж покуль косткамі сваймі
у падзямельлі ты ня хруснуў . . .
Адмалку, ад гадоў сямі,
зы мной ня кідаў ты хаўрусу.

На Калыме і па вайне
і я, і ты ішлі балесьне.
І толькі па маёй віне
ня ўсё ўпісалі мы у песьню.

Але і так жыцьцём дыхнуць
на холад часу мае словы.
Бо холад той і лёд раскуць
яны былі заўжды гатовы.

Што-б ня было, ты ўсё жывеш,
тугі, нацэлены і порсткі.
Імкні-ж, імкні, мой сябра верш,
хоць пакрысе, хоць па напёрстку.

Ня супыняйся на дарозе,
хоць-бы крывавілася рана.
На неразьмераную прозу
мяняць цябе яшчэ зарана.

8. 9. 1962 г.

С. Жамойда

# КУПАЛЬЛЕ

У пэрыяд поўнага красаваньня лета, т. зв. летняга сонцазвароту, калі выпадае найдаўжэйшы дзень, а ноч найкарацейшая ў годзе, з 23 на 24 чырвеня, нашыя прашчуры адзначалі сьвята сонца, і звалі яго Купала.

Сьвята Купала сягае няпамятных часоў. Яно вельмі багатае формай і зьместам, поўнае фантастычнай рамантычнай прывабнасьці і таямнічай чароўнасьці.

Трыумф сонца над цемрай, а жыцьця над сьмерцяй вельмі ўрачыста спраўлялі ўсе Славяне, а нашыя прашчуры надзвычайна.

Сьвяткаваньне пераказвалася з пакаленьня ў пакаленьне; шмат абрадаў зьнікла, але й тыя, што захаваліся, вельмі калярытныя, цікавыя, жартаўлівыя й жыва прамаўляюць да пачуцьця й духовага задаваленьня чалавека.

Купальская ноч найкарацейшая, аднак у ёй дзеюцца розныя дзівы й таямнічыя зьявы. Гэта ноч чараў, калі ведзьмы й чараўніцы, вярнуўшыся пасьля вечарынкі з чарцямі на Лысай гары, з асаблівай назольнасьцяй стараліся шкодзіць людзям, а найбольш жывёле, прыкладам, адбіралі малако карове. Каб усьцерагчыся нячыстай сілы, ведзьмавых урокаў, злых духаў чараўніцаў ды ўсялякай „нечысьці", людзі яварам пасыпаюць вакол хаты, затыкаюць зялёныя галінкі клёну, ляшчыны й бярозы над вокнамі й дзьвярыма, а на парозе хлявоў і хаты кладуць рознае пякучае і калючае зельле.

Расьціннасьць, паводля пераказаў, у Купальскую ноч мае вялікую спэцыфічную моц. Сарваныя зёлы-травы маюць сілу лякобную, могуць адчыніць будучыню, паказаць скарбы, схаваныя ў зямлі. Вылучна толькі на Купалу зацьвітае залацістым колерам папараць, а яна мае цудоўную моц абдараваньня поўным шчасьцем, яснабачаньнем. Трэба быць адважным, каб а поўначы йсьці ў глухі бор ды шукаць кветку. Кажуць, што кветку шчасьця можна знайсьці, хоць моц нячысьцікаў, з дапамогай чараўніцаў, яе сьцеражэ, палохае ды перашкаджае адважным. Ці хто знайшоў кветку? Ці атрымаў шчасьце? — Ня ведаю, але рызыканты ўсьцяж яе шукаюць.

На Беларусі сьвяткавальны абрад Купалы пачынаўся пасьля заходу сонца, пад лесам, ля старога дуба, над вадой. У пашану магутнаму дабрадзейцу сонцу, богу Ярылу, богу любові, красаваньню кветак палілі вялікае вогнішча. Навет калі іскра ўжо здабывалася крэменем, купальскае вогнішча ўсьцяж распальвалася паціраньнем сухіх кускоў дрэва аб дрэва.

Агонь — вялікая ачышчальная сіла. Яна зьнішчае ўсё благое, што можа прычапіцца да чалавека й пашкодзіць яму. Яна адганяе ўсе злыя сілы, якія з асаблівай актыўнасьцяй лунаюць па цэлым сьвеце ў купальскую ночку, шкодзяць людзём і жывёле.



Уявеце сабе такі абраз. Ноч ня чорная, як у лістападзе, а празрыста сіняя. Неба, як акіян, усеенае міліёнамі зорак. Паветра напоўненае пахам красаваньня кветак. Высока на жэрдзі гарыць абмазана смалой кола й асьвятляе паляну. Унізе вялікае вогнішча. Міліёны іскраў успыхваюць і губляцца ў начы. На лузе сьмех, весялосьць. Настала сьвята маладосьці, радасьці, каханьня, песьні. Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, абходзяць вогнішча, кідаюць у яго крыху зельля, сьпяваюць урачыстыя песьні ў пашану бога плоднасьці і ўраджаю: „Гэй, Ляда, Ляда, Купала". Кажная дзяўчына упрыгожаная вянкамі, плеценымі з пахкіх палёвых кветак. Абавязкава мусіць быць уплецена дзесяць розных гатункаў зёлак, бо гэта прыносіць шчасьце.

Песьні мяняюцца, за сьвяточнымі йдуць жартаўлівыя, песьні аб каханьні, маладосьці. Змучаныя дзяўчаты адпачываюць на мураве. Замяняюць іх хлапцы, таксама ўпрыгожаныя паяскамі, зьвітымі з кветак і зяленіва. Выяўляюць сваю спрытнасьць, шпаркасьць — скачуць праз агонь. Тут ня толькі моладзь, — вакол і старэйшыя. І яны прыйшлі, каб успомніць сваю маладосьць, сваё мінулае, ды падзівіцца спрытам юнакоў, таксама пераканацца, што ўсё робіцца пастарому.

Вада таксама ачышчае. Магутную й лякобную сілу мае купальская вадзіца, бо адганяе „нячыстую сілу" ад чалавека й ад жывёлы. Навет раса ў купальскую ноч лякобная і ўсе ходзяць босыя.

На Беларусі яшчэ й да сяньня захавалася традыцыя, што пачынаюць купацца ад Івана, калі вада „аквітне"; таксама ад Івана выходзяць на касьбу.

Вогнішча дагарае, бо ўся ўвага на ваду. Тут дзяўчаты кідаюць вянкі, варожачы сваю будучыню. Вада падхапляе вянкі й шпарка нясе па плыні, а агнікі ў вянкох брыліянтамі мігацяць, люструючыся ў сіняй рацэ. Колькі варажбы, прыкметаў у гэтым абрадзе. Усе сочаць — ці вянок не патане, ці не спалучыцца з другім?

Характэрна адзначыць, што сьвяточны абрад Купальля, як і іншыя рэлігійныя, сямейныя, сялянска-гаспадарскія, народныя абрады ды ўрачыстасьці — бяскроўны, бяз рытуальных забойстваў, а гэта ўжо само сьветчыць аб высокай цывілізацыі нашых беларускіх прашчураў.

Пасьля ўвядзеньня хрысьціянства сьвята Купалы, побач зь іншымі паганскімі сьвятамі, хрысьціянская рэлігія ўняла ў свае рамы. Зьмяніла старыя паганскія звычаі, адкінула забабоны, варожбы, — надала абрадам новыя лагодныя формы й спалучыла з хрысьцянскімі імямі сьвятых.

## АБ БЕЛАРУСІ НА УНІВЭРСЫТЭТАХ ЗША

Сп. С. Казакоў на Калюмбійскім у-це напісаў у мінулым сымэстры дзьве сэмінарскія працы: "Admininistrative Control of Byelorussian Press through Governmental Channels" (Адміністрацыйны кантроль беларускае прэсы празь дзяржаўныя ўстановы) і "Controversy over the Problem of the Positive Hero, 1934-1952" (Кантравэрсія на тэму пазытыўнага героя, 1934-1952 гг.) (на прыкладзе беларускае савецкае літаратуры й літаратуры інш. народаў СССР.)

——

Доктар мэдыцыны Ул. Набагез быў адным з удзельнікаў мэдыцынскіх навуковых выставак у Чыкага ў красавіку сёлета і ў Нью-Ёрку ў травені, паказваючы новы спосаб лячэньня павышанага ціску крыві.

——

Курсы беларускае мовы для Амэрыканцаў, арганізаваныя Беларускім Акадэміцкім Таварыствам, перапыненыя на час летняга адпачынку. Яны пачнуцца йзноў у кастрычніку. Матар'ял, пройдзены ў 1961-62 навучальным годзе, адбіты на ратататры і яго можна атрымаць праз „Беларускую Моладзь".

Сп. Я. Юхнавец на бібліятэкавед-ным факультэце Ратгерскага штатнага ўнівэрсытэту (штат Нью-Джэрзы) апрацаваў сэмінарную работу „Бібліяграфія раньніх беларускіх друкаў", што ахоплівае пэрыяд ад пачатку беларускага друкарства да сярэдзіны 18-га стагодзьдзя.

——

„Гісторыя беларускае й украінскае моваў" — курс, што чытаецца на Калюмбійскім у-це вясеньнімі сымэстрамі. Сёлета слухачы курсу працавалі над перакладам частак з Коласавае паэмы „Сымон Музыка".

——

Сп. О. П. Бакус, прафэсар Кэнзаскага ўнівэрсытэту, атрымаў стыпэндыю для працы над гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага (1385-1795) і над роляй Беларусаў у разьвіцьці права Маскоўшчыны.

——

Супрацоўнік „Беларускае Моладзі" Б. Міхалюк стала супрацоўнічае із шмат якімі амэрыканскімі часапісамі ў галіне красвордаў. Красворды сп. Міхалюка ў значнай меры базуюцца на беларускім матар'яле. Яны карыстаюцца папулярнасьцяй. У 1958 годзе, прыкладам, сп. Міхалюк сваймі красвордамі заняў першае месца ў штаце Місісіпі.

---

У нашым народзе яшчэ й да сяньня захаваліся некаторыя прыкметы з часоў сьвяткаваньня Купалы. Прыкладам: Іванава ночка зоркая — варожыць ураджай на грыбы; на Іванаў дзень грымоты — моцны мароз у зіму. Старыя бабулькі яшчэ й сяньня зьбіраюць „Іванаву траву", валерыянавае карэньне, дзюравец, крыжоўнік, якімі пасьля лечаць людзей і жывёлу.

Яшчэ й сяньня на вадзе можна пабачыць плывучыя вянкі; ды не адна дзяўчына, хочучы ведаць сваю будучыню, на Івана, пад падушку кладзе вянок, або зельле, каб прысьніўся той, зь кім доля злучыць у жыцьці.

Купальле знайшло адбітак у творах нашых пісьменьнікаў і паэтаў.



К. Юхневіч

## Я, ЦІ АД ЧАГО ПАЧАЦЬ...

**(Апавяданьне майго суседа)**

Колькі год мне было тады, я ня памятаю. Але дзень перад полуднем памятаю. Памятаю вокны, і ў сярэдзіне хаты поўна сонечнага сьвятла. Шум паркавых бярозаў у воддалі сялібы і завіхлявасьць двух незнаёмых мужчынаў — яны сноўдаліся то з хаты, то на панадворак. А чаму, прачнуўшыся, я спаткаўся з тым днём і з людзьмі аднолькава, ня памятаю.

Мама падыйшла да мяне й пасадзіла на ложак, стуль было высока ад падлогі, але вельмі блізка да вакна. Яно было ўпоравень зы мной. За шыбамі — не разьбі іх, ведаў асьцярогу, — жаўцеў на дварэ ніто пяшчанік, нагнаны дажджовай паводкай, ніто жарсьцвяк наўмысна насыпаны, як рабілася прад сьвятам. Пра гэта я даведаўся пасьля. Сяліба стаяла паміж ушчалопкаў узгорку. Па дажджы панадворак заўсёды сьвятлеў пяшчанікам.

Усе былі чымсьці занятыя. Я пачаў лавіць муху, не адну, а колькі на шыбінах. Мухі ўзьляцелі вышэй да надваконьня. Мама пабачыла, куды я цягнуся.

— Вакно разаб'еш. Хадзі далоў...

Мне усёдна: ці быць каля ваконьніка, ці йсьці далоў. Я таксама меў рупнасьці. Палез пад стол. Ня памятаю, як доўга поўзаў паміж пярэчынай столу й лавы. Але на кагосьці я спрабаваў гаўкаць ды падскокваць там, дзе заўсёды садзіўся есьці тата. Гэтак рабіў наш сабака Мопсік.

— Там брудна, сынку — вылазь адтуль, — папрасіла мама.

І ў вадказ я гаўкаў на яе, і нават ніколі ня бачыўшы гэтага ад Мопсіка, ятрыста схапіў зубамі мамін андырак. Шкуматаў яго, гурчэў.

— Ах, паганы цюцька. Прэч з хаты! — здаецца злавалася мама, і пад-хапіла мяне на ўлоньні. Я гаўкаў ёй у ваблічча.

— Ву, які я злосны цюцька!

Яна абняла мяне. Лёпала пяшчотна па ўзплеччы, панесла да століка каля майго ложка... Ізноў тое самае.

— Гэта за тату зьеж...

І я глынуў з лыжкі паранага малака. Як Мопсік, пахлыпаў языком.

— ... А цяпер за маму.

Лыжка, поўная малака, адразу перад самым ротам. Я спраціўўся. Ах, гэтае ненавіднае малако!

Мама сядзела й трымала мяне. Я наровіў вырвацца ад яе. Падлога далекавата ад маіх ног, але вырвацца з маміных рук нясполахна.

Падыйшоў тата. Ён штосьці гаварыў да мамы, а я, пазіраючы на яго, усё лез з улоньня, пакуль не адчуў пад нагамі падложынаў. Памацаў першую напатканую шчыліну паміж падложынамі. Мабыць, ня цікава.

У хату ўвайшлі незнаёмыя з двума поўнымі мяшкамі. Тата пайшоў да іх, пайшоў і я. Яны прывіталіся зы мной — патрэсьлі маю далонь. Мне усёдна гэта. Але мяшкі, што паставілі перад гэтым, мне цікавей.

— Ня лезь, — папярэдзіў тата.

Я адыйшоўся. Адыйшоўся мо адзін крок ад мяшкоў. Тата зь незнаёмымі штосьці гутарыў, закладаў пальцы на далоні. Незнаёмыя стаялі шчытна, гутарачы, нахіналіся да таты. За мной стаяла мама.

Тата незадаволена пакручваў галавой. З таго дня мне запамятаўся тата, і што яго завуць толькі тата, а ніяк інакш. Адзін зь незнаёмых расьхінуў мяшок, і гаворачы штосьці, адыйшоўся ад яго, другі ні зь месца, спыніўся між мяшкамі.

— На яблык, — сказаў да мяне незнаёмы і выняў зь мяшка пачырва-

нелы яблык. Гэтакіх вялікіх, здаецца, потым ніколі не расло. Яблык выпаў з маіх рук. Мне спадабалася, што ён коціцца па падлозе. Азірнуўся на незнаёмых, і на тату, пакаціў яблык да ложка, дзе я спаў. Ён закаціўся пад ложак, а тады далей, ажно пад статўбунок, дзе стаялі вёдры з вадой. Туды баюся лезьці, калісьці вядро вады абвярнуў на сябе.

Я вясёла падбег да мяшка. Адважна паспрабаваў узяць яблык сам. Мяшок высокі — не дастану.

— Ня лезь, — сказаў тата.

Мне было крыўдна. Я пабег да мамы. Яна не паслухала мяне. Штосьці таксама час-часом гаварыла да незнаёмых, і гладзіла рукой па маёй галаве. Незнаёмы, што адыйшоўся, вярнуўся зноў. Торкаў тату, бадай пад кашулю, каляровыя папярцы і чымсьці бразкацеў у кішані другой рукой. Але кішэнь ня зьвінела гэтак доўга і падобна як перад тым, пакуль незнаёмыя завіталі, бразгаў я званіста ў парожны чугун для бульбы. Мне было цікава. Я адыйшоўся ад мамы — забыўся на крыўду... Незнаёмы навет не паглядзеў на мяне, прытка адвёў маю руку ад ягонай кішані... Мне крыўдна зноў. Пачаў злосны бегаць каля мяшкоў. Наравіста пазіраў у вочы незнаёмых і спрабаваў пірхнуць мяшкі. Мама злавіла мяне, адвяла да майго ложка, дала гліняны сьвішчык... Неўзабаве, сьвішчучы, я зноў падбег да незнаёмых. Перарыўна сьвістаў і глядзеў на іх. Яны былі няўмольныя — не глядзелі на мяне. А тата ўсё штосьці гаварыў да іх, ён выглядаў незадаволены гэткі, калі я быў благі... Я зноў адбегся. Сьцягнуў сваё штонікі — я ведаў, што гэтак захоўвацца нядобра, але я жадаў памагчы тату: яны нялюбыя дзядзькі!

— Бярэце! — сказаў злосна тата.

Я сполахна адбегся — схаваўся пад ложак.

Незнаёмыя падхапілі мяшкі, панесьлі з хаты.

### II.

Я ўжо быў „вялікі" хлопец, бо апрача мяне нарадзіўся брат. Я мог пагадзіць зь ім, што-ж, ён умее толькі поўзаць. Калі мама не спакмечвала або была занятая працай, я прывязваў яго шырокім каляровым поясам да ўзножжа стола. Тады ён не перашкаджаў мне гуляць ці бегаць па хаце...

Сонца зайшло. Мама цадзіла малако на ганку. Каля даёнкі заўсёды стаяў гліняны кубак. Колькі разоў я разьбіваў гэтыя кубкі, але тата аднекуль ізноў прыносіў іх дадому, і радаваў мяне: — Цяпер будзеш піць з новага. — Я пагарджаў сырадоем...

Тата вярнуўся з касавіцы. Падвесіў касу на крокву пад сьвірнам. Ад яго вадрыла асакою й летнім потам. Сеў упобач мамы, выцягнуў з торбы рэчныя лялеі й даў іх маме. Ад маленства я люблю гэтыя краскі й заўсёды шкадую, калі адарваўшы іх зь цёмна-зяленых, бадай даланёў-лістоў, неўзабаве робяцца асьвялымі, таму ніколі ня зрываю, а любуюся імі сярод вазёрных ці рэчных віроў. Мяне насьціць напаткаць хоць калі-небудзь патаёмнасьць іхнага прыгаства...

— Сыну, найперш малако выпі, а тады пагуляеш з краскамі, — загаманіла мама.

— Так, братка, пі малако, дужы будзеш, — утараваў тата й падахапіў мяне пад пахі, падкінуў высака на руках. Зноў пасадзіў на ганак каля кубка з малаком. Загаварыў да мамы.

— Ледзь закончылі пожню. Трава сёлета ў рост чалавека...

— ... ідзі, сынку, спаць... канчай малако, — не ўгамоньвалася мама. Я згодна ківаў галавой і адмахаваўся ад камароў рэчнымі лялеямі. Упяршыню спакмелася: у іх даўгія цыбукі-каліны, і яны сітнястыя ды кволыя, навет няціснуўшы мацней пальцамі.





Паспрабаваў смак пялёстка — няпрыемны. Сплюнуў сьліну наўсупраць камара якога спакмеў, як ён ляцеў да аблічча. Але камары неадступныя, дзыгаюць аблічча, босыя ногі.

— Я ня ведаю, што рабіць: карова дае мала малака. А гэтулькі падаткаў плаціць, — пажалілася мама. Тата падняў маю шараковую кашулю, паглядзеў на мой жывот... Ён зусім пра іншае гаворыць.

— Раны-ж няма?

— Няма... Сыну, ня лезь да каровы з травой, яна сама знойдзе яе.

— Добра, мама.

— Вось калі ня будзеш піць малако, карова заўсёды будзе басьці цябе, — папярэджвае тата.

— Тата, я люблю малако.

І больш ня слухалі й не зварачаліся да мяне.

— ... сяньня, ажно за 10 год, паведамілі, што мае браты загінулі на фроньце харобрай сьмерцяй.

— Што-ж, ня вернеш іх... няварт сумаваць, — раіць тата.

— Мне шкада іх... аднаму дваццаць год, другому восьмінаццаць было... яны такія мілыя, до-о-брыя...

Мама заплакала. Я падгінаю пад ськівіцы калены, гляджу на маму, ціхенька выліваю малако пад ганак... Мама ўсхліпвае мацней, і я шпарчэй выліваю малако; на ейным абліччы ў вячорным сутанку зігацяць сьлёзы.

— ... гэткім маладым загінуць.

Я ўвесь падагнуты ў камячок, ківаюся, і хоць тата навучаў: хлапцы ніколі ня плачуць, я пазіраючы на студню, на дзірявае карыта, скуль крапала недапітая каровай вада, таксама заплакаў.

— Ня плач, — папрасіў тата, — увесь сьвет плакаў калісьці, бо вайна была...

Вароты да сялібы зарыпелі. Із стрэльбай праз плячо ўвайшоў Хведар-палясоўшчык. Мопсік ня гаўкаў

— знаў яго. Знаў і я Хведара, ён заўсёды кваліўся надамной — нацэльваўся стрэльбай, ён неразлучна хадзіў зь ёй.

Мама, узяўшы даёнку, пайшла да хаты.

— Я да цябе — яшчэ ня позна... Напэўна накасіўся? А я дык нахадзіўся...

— Сам ведаеш: з касой — ня з стрэльбай хадзіць.

— Не твая справа, зямляк!

— А што здарылася?

— Адразу чуеш, калі тлее ярмяк!

— Добра, Хведар — я ведаю твае жарты. Кажы, што здарылася — бо-ж бадай уночы завітаў?

— Каб ня здарылася, дык ня прыйшоў-бы... маю права ў якую-хоць часіну прыйсьці: на гэта, зямляк, закон ня пісаны... Я чалавек, што не завітвае, каб дзяцініцца.

— Мне падабаецца, што ты ня ўмееш дзяцініцца.

— А патвойму: чаго я завітаў?

— Ня ведаю: кажы барджджэй, бо-ж заўтра зноў на сенакос — адпачываць час.

— О, калі ты стомлены — я пабарджджу! Папера ў цябе ёсьць?

— Не гандлюю паперай.

— Ты думаеш, калі не дасі паперы, дык пратакол ня будзе напісаны?.. Я надзвычайны чалавек, але калі парушаюць закон, я люблю ўзьняць меч супраць гэткіх!

— Супраць мяне?... А можа за тое, — тата паказаў на мяне, — што ён пабегаў на лехах, пакуль маці ўскопвала іх?

— Братка, зразумей: закон! Калі пашчасьціла — Бог закон даў, а не пашчасьціла — Бог забыўся на твае пасткі: дзяржаву ахаваў. А дзяржава — бог багаты й гарбаты!

— Хведар, гавары, што ты хочаш.

— Дзеля справядлівасьці не барджджу, хоць ведаю — несправядлівасьць

(гл. б. 29)



**Міхась Кавыль**

## КАСТУСЬ КАЛІНОУСКІ

Калі я думаю аб ім,
думаю аб сэрцы,
Найбольшым сэрцы на зямлі,
непадлеглым сьмерці.
Яго ня здужала пятля
ката - Мураўёва,
Яно маршуе у грудзях
песьняю баёвай;
Сьпявае у грудзях маіх,
у тваіх грукоча
Няўтольняй спрагаю жыцьця
сьветлага, як вочы...
Як вочы любае дачкі,
сына дарагога,
Каму ня сьніцца эшафот,
дальняя дарога...
Жыцьця між сініх васількоў —
не зь мярэжнай казкі —
Жыцьця бяз кратаў, ланцугоў,
бяз чужацкай ласкі...




## 1863—1963

**Здымкі з выстаўкі ў Публічнай Бібліятэцы Нью-Ёрку.**



Вялікім, зыркім тым агнём,
непагасна, сьмела,
Каліноўскага празь век
сэрца палымнела:
„Мужыцкай праўдай" у душы
дзірваны арала,
Праз пушчы помстаю ішло
з склютам, самапалам...
Шляхоцкі сын, Кастусь ня знаў
злыбяды, патолі,
А сэрца плакала яго
бліжняга нядоляй.
Малілі Бога за яго
бедныя матулі.
Хрыстапрадаўцы прадалі...
У Маскве ўздыхнулі.
Уздыхнулі рана — жыў Кастусь...
У Вільні на памосьце
Не Каліноўскага — прыблуд
хруснулі пся - косьці.
Касою голай сьцяла сьмерць...
А пятля на шыі
Вязала цесны вузел тым,
хто яго душылі...
І хай ня жыліцца Масква
нас зрадніць з тунгусам —
Бунтуе сэрца Кастуся
ў грудзях беларуса...

13 лютага 1963 г.





## ADVICE TO A DEAR FRIEND

*by Jadwiga Baran*

And so, dear friend, dear sparrow,
Why are the trees so bare?
Did weariness in breathing
Contaminate the air?

Why the songs of mountains
Huddled in purple sun?
Why the meloncholy
In such a youthful one?

Why sing of rushing currents
Dying in the sweep?
Why sing of frightened valleys
Crying in their sleep?

My singing spring-born sparrow,
Youth's a pleasant bloom.
Spar above the shadows:
Fly above the gloom.

*Пагынаюгая паэтка Ядзьвіга Баран сярэднюю асьвету здабыла ўжо ў Амэрыцы. Яна ведае беларускую мову, але свае літаратурныя творы піша паангельску.*

Come, my mooning sparow,
Flight must not be forgot:
Sing the songs of pale grass
And young forget-me-not.

Sing of bare-limbed saplings,
Virgins clothed in cream;
Sing of wistful willows
Noding in a dream.

Don't forget the windsongs
Of quiet evening seas,
And don't forget the songtrees
Swaying in the breeze.

## ВІТАЕМ!

Сябровак **А. Жамойду** і **К. Барсук** у Пасэйку, Н. Дж., з заканчэньнем сярэдняе школы.

**Юзіка Казьлякоўскага** з заканчэньнем сярэдняе асьветы ды з намерам здабываць далейшую навуку на Ньюёркаўскім Унівэрсытэце.

**Зінаіду Канарчук** з заканчэньнем Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту.

Актыўных сяброў СБАМ **Натальлю Кіркевіч** і **Віталія Каракульку** з нагоды шлюбу, што адбыўся 8 чырвеня ў царкве Сьв. Эўфрасіньні ў Саўт-Рывэры.

**Аліну Лосік,** актыўную сяброўку аддзелу ЗБМА Саўт-Рывэр — Ньюбрансўік з заканчэньнем Даглэс Каледжу. Асабліва горача вітае Аліну сябра Аўген Лысюк, жадаючы ўдачаў на новай працы.

**Васіля Мельяновіча,** тэхнічнага рэдактара „БМ", з заканчэньнем інжынерных навукаў у Гарадзкім Каледжы Нью-Ёрку.

**Надзю й Юрку Навумчыкаў** з нараджэньнем малой Альжбеткі.

Валейбалістых **„Нёмна"** із Саўт-Рывэру з выдатнай рэпрэзэнтацыяй імя Беларускага Спартоўца. Памысьнага сэзону!

**Кінусю й Лявона Норыкаў** з нараджэньнем 12 чырвеня сына Віктара.

**Ірыну Пячонку** зь Ёнкерсу, Н. Ё., з заканчэньнем гімназіі.

**Юрку Стагановіча,** студэнта Ратгерскага ўнівэрсытэту ў Нью-Брансўіку й капітана лёгкаатлетнае каманды, із спартовымі ўдачамі. Жадаем здабыцьця новых мэдаляў да сямёх атрыманых ужо!

**Колю Стрэчаня,** актыўнага сябру ЗБМА ў Кліўлендзе, з заканчэньнем сярэдняе асьветы.

**Жэню Яневіч** і **Фрэнка Сполдынга** з жанімствам, што адбылося ў Саўт-Рывэры 25 травеня.

## БЕЛАРУСЬ У ІНШАМОУНЫМ ДРУКУ

**(студзень - чырвень 1963 г.)**

CHICAGO TRIBUNE (Чыкага). 17. III газэта падала пра сьвяткаваньне Беларусамі Чыкаго ўгодкаў Незалежнасьці БНР.

CONGRESSIONAL RECORD (Вашынгтон). У колькіх сакавіковых нумарох гэтага ўрадавага органу было апублікована звыш 10-ёх заяваў у Амэрыканскім Кангрэсе на тэму 45-х угодкаў Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Дэтальней аб гэтым гл. у іншым месцы часапісу у вартыкуле пра сьвяткаваньне ў ЗША 25 Сакавіка.

CZAS (Бруклін, Н. Ё.). 12. IV газэта паведаміла пра сьвяткаваньне Беларусамі Амэрыкі ўгодкаў Незалежнасьці й пра дзейнасьць ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА, а таксама зьмясьціла верш Віктара Гамуліцкага з 1914 году „На Бялэй Русі".

DAILY HOME NEWS (Ньюь-Брансўік, Н. Дж.). 30. III зьмясьціла дэтальнае паведамленьне пра сьвяткаваньне Беларусамі Ньюь-Брансўіку й Саўт-Рывэру (штат Ньюь-Джэрзы) 45-х угодкаў Незалежнасьці Беларусі.

KULTURA (Парыж), № 5, травень, бб. 121-126. К. Акуліч дае крытычны аналіз беларускае савецкае літаратуры 50-х гадоў.

NEW YORK HERALD TRIBUNE (Ньюь-Ёрк). 3. VI у вартыкуле свайго карэспандэнта Дэйвіда Мілера, напісаным зь Менску, апісвае здушваньне ў БССР жыдоўскае культуры й гісторыі. У БССР цяпер жыве 150 тыс. Жыдоў.

NEW YORK TIMES (Ньюь-Ёрк, 23. IV пад заг. „Беларусь абвінавачвае чатырох сыяністаўскіх прыпагандыстых" паведаміў пра выпад менскае газэты „Советская Белоруссия" супраць некаторых замежных турыстых, што пашыраюць быццам сыянізм на Беларусі.

26. IV апублікаваў карэспандэнцыю з Масквы пра атаку ў „Праўдзе" на заступніка Старшыні Савету міністраў БССР Аляксея Золава за няспраўнасьці ў беларускай прамысловасьці.

12. V у вартыкуле пра суд над былым нацыстоўскім палкоўнікам Гойзынгерам газэта адзначыла кіраваны Гойзынгерам расстрэл у раёне Менску 180 тысячаў Жыдоў у 1942-43 гг.

27. V „Таймс" паведаміў пра здабыцьцё беларускім 24-гадовым скрыпачом Аляксеем Міхлінам, вучнем славутага Давіда Ойстраха, першае ўзнагароды на чацьвертым Міжнародным Скрыпічным Спаборніцтве ймя Каралевы Альжбеты ў Бруксэлі.

NOWY ŚWIAT (Ньюь-Ёрк). 14. I паведаміў пра нападкі маскоўскае газэты „Праўда" на рэлігійныя групы ў Беларусі, асабліва на каталікоў і баптыстых, дзейнасьць якіх, як пісала „Праўда", апошнім часам узмоцнілася.

28. I і 6. II у справаздачы пра абход ньюёркаўскім польскім Інстытутам ім. Пілсудзкага 100-х угодкаў паўстаньня 1863 году паведаміў пра ўдзел у вабходзе „ад імя вольных Беларусаў" доктара Янкі Станкевіча.

9. II зьмясьціў рэзалюцыю пададзеную ў Палаце Прадстаўнікоў амэрыканскага Кангрэсу кангрэсмэнам Уільямам Грынам із штату Пэнсыльванія. Рэзалюцыя прапануе стварыць у Кангрэсе „Адмысловы Камітэт у справахПаняволеных Народаў", сярод якіх спамінаецца й Беларусь.

23. III надрукаваў абшырны артыкул аб Акце 25 Сакавіка.

SPRINGFIELD SUNDAY REPUBLICAN (Спрынгфілд, Мас.) 20. I у вартыкуле пад заг. „Край цудаў", за маскоўскай газэтай „Праўда", падае пра няспраўнасьці ў вытворчым працэсе менскага аўтамабільнага заводу.



## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

**КНІГІ И БРАШУРЫ**

**Юры Жывіца.** ПУШЧА ШУМІЦЬ. (Windsberg - Pirmasens), выд. „Вехаў", 1963. 99 б. Аповесьць прысьвечаная памяці Хведара Ільляшэвіча.

СТАТУТ Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. Ньюь-Ёрк, выд. ЗБМА, Галоўная ўправа, 1962. 10 б.

**Ул. Глыбінны.** СМАЛЕНШЧЫНА — АДВЕЧНАЯ ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ (гістарычны нарыс). Ньюь-Ёрк — Саўт-Рывэр, выд. Беларускага Выдавецкага Таварыства, 1963. 44 б.

*Ciechanowiecki, Andrzej.* MICHAŁ KAZIMIERZ OGIŃSKI UND SEIN MUSENHOF ZU SŁONIM. Köln Graz, Böhlau Verlag, 1961. 212 S.

SONNETARIUM. A chapbook of sonnets compiled by Vera Rich and Elizabeth Harvey. Published by Manifold Poetry Quaterly. London, 1962. 31 p.

У кніжыцы два санаты зь беларускае літаратуры — адзін Янкі Купалы, другі Алеся Салаўя, абодва ў перакладзе Веры Рыч.

**Алесь Змагар.** ДА ЗГОДЫ. Вершы. Кліўленд, выд. літаратурнай сустані „Баявая Ускалось", 1962. 64 б.

**ЧАСАПІСЬМЕНСТВА**

„БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ" № 1, 1963. Дэтройт, выд. Н. Пруcкага.

---

WALL STREET JOURNAL (Ньюь-Ёрк). 9. V у вартыкуле пра безгаспадарлівасьць і бюракратызм савецкае прамысловасьці падаў прыклады безгаспадарлівасьці на менскім трактарным заводзе.

АМЕРИКА (Філядэльфія). 30. I гэтая ўкраінская газэта зьмясьціла вялікі перадавы артыкул „Цяжкасьці маскоўскіх бязбожнікаў у Беларусі". Перадавіца была напісана ў сувязі з апублікаваным 12 студзеня сёлета ў маскоўскай „Праўдзе" артыкулам пра бязьдзейнасьць атэістых на Беларусі.

МОЛОДА УКРАЇНА (Таронта-Ньюь-Ёрк). Сакавіковы нумар зьмясьціў артыкул М. В. пра Кастуся Каліноўскага з паданьнем у перакладзе поўнага тэксту запавету Каліноўскага „спад шыбеніцы маскоўскай".

НОВОЕ РУССКОЕ СЛОВО (Ньюь-Ёрк) 30. III апублікавала артыкул Антона Барысаглебскага пра 15-годзьдзе „Белорусского Демократического Комитета" з выпадамі супраць беларускіх „нацыяналістых".

СВОБОДА (Джэрзы Сіты) й Ньюь-Ёрк). Украінская газэта, 23. II зьмясьціла прэсавы камунікат ньюёркаўскага аддзелу радыя „Свабода" пра русыфікацыю беларускае мовы ў БССР.

ХРИСТИЯНСЬКИЙ ГОЛОС (Мюнхэн, Ням. Фэд. Рэсп.). 20. I зьмясьціў біяграфію біскупа Часлава Сіповіча й артыкул пра ягоныя адведзіны ўкраінскае друкарні „Логос" у Мюнхэне.

17. III надрукаваў артыкул М. Брадовіча „Паразка маскоўскіх бязбожнікаў на Беларусі". Аўтар выкарыстаў для артыкулу матар'ялы, апублікаваныя ў „Праўдзе" 12 студзеня 1963 г.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Мы сьведамыя таго, што зьмешчаныя вышэй ведамкі — адно частачка ўсяго, што **было** апублікавана пра Беларусь на Захадзе за мінулыя шэсьць месяцаў. **Таму** просім нашых Чытачоў прысылаць нам ўсё, што трапляе ў рукі з чужамоўнага друку зь весткамі ці выказваньнямі пра Беларусь. Прысылайце або выразкі, з паданьнем назову й даты публікацыі, або свае собскія нататкі, зробленыя наводля вышэй прыведзеных.

# ХРОНІКА

## САУТ-РЫВЭР

■ Валейбольная пружына „Нёман" із Саўт-Рывэру ўзяла ўдзел у украінскім валейбольным турніры, што адбыўся 16 сакавіка ў Пасэйку, Н. Дж. У турніры ўдзельнічала сем дружынаў. „Нёман" заняў трэйцяе месца. У ягоны склад уваходзяць: Г. Арцюшэнка, Ю. Навумчык, В. Талмацэвіч, Я. Верасаў, Хв. Бордак і Р. Максімаў.

■ Аддзел СБАМ наладзіў 27 красавіка ў Саўт-Рывэры ў залі Шакаў першую веснавую вечарыну, на якой каля 300 удзельнікаў прыемна правялі час.

■ Група сяброў СБАМ із Саўт-Рывэру 18 травеня былі гасьцямі на вечарыне, ладжанай Арганізацыяй Дэмакратычнае Украінскае Моладзі ў Ньюарку, Н. Дж.

■ 27-га чырвеня, у 19-ыя ўгодкі Другога Усебеларускага Кангрэсу, аддзел СБАМ у Саўт-Рывэры ладзіў акадэмію, прысьвечаную гэтай падзеі. Акадэмія праходзіла ажыўлена, бо некаторыя прысутныя сябры былі навочнымі сьветкамі гэтай гістарычнай падзеі. Асабліва цікавыя ўспаміны меў адзін з курсантаў Беларускай Ахвіцэрскай Школы, што ахоўвала Менскі гарадзкі тэатр, дзе адбываўся Кангрэс.

Прысутныя на акадэміі расказвалі аб нацыянальным уздыме і самаахвярнасьці беларускага народу ў тыя цяжкія ваенныя часы.

■ У сыботу 22-га чырвеня адбыліся апошнія перадвакацыйныя заняткі ў парахвіяльнай школе пры царкве Сьв. Эўфрасіньні ў Саўт-Рывэры. У нядзелю 23-га а. М. Лапіцкі адслужыў для школьнікаў малебен. А ў панядзелак 24-га зь ініцыятывы настаўнікаў: сп-ні Раісы Евец, сп.сп. П. Орсы, І. Шчорса і а. М. Лапіцкага саракапяціасабовая грамада вучняў і настаўнікаў зрабіла экскурсію у "Freedom Land", Нью Ёрк.




■ У Саўт-Рывэры 30 травеня („Мэмор'ял Дэй", дзень ушанаваньня памяці палеглых) адбыўся традыцыйны парад, у якім ўзяла ўдзел і беларуская група. Арганізатарамі групы былі саўтрывэрскія аддзелы СБАМ і Злучанага Беларуска - Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту.

Актыўны ўдзел у парадзе ўзялі вучні беларускае сыботняе школы пры царке Сьв. Эўфрасіньні Полацкае. Кіраваў беларускую групу сп. А. Занковіч. Пры помніку палеглым быў пакладзены вянок ад беларускага саўтрывэрскага грамадзтва. Пасьля параду адбыўся пікнік, наладжаны на пляцы карпарацыі Шакаў для вучняў і настаўнікаў сыботняе школы.

## НЬЮ-БРАНСУІК

■ У вербную нядзелю 7 красавіка аддзел ЗБМА наладзіў лятарэю, прыбытак ад якое быў ахвяраваны на ўпрыгожаньне кветкамі набытае нядаўна ў Нью-Брансўіку свае царквы.

■ 12 травеня аддзел ЗБМА адзначыў сьвята Маці. У гэты дзень сяброўкі аддзелу ля царквы ў Нью-Брансўіку прышпільвалі мацяркам кветкі. Па багаслужбе адбыўся супольны абед, на якім мацярок віталі кіраўнік аддзелу Міхась Каранеўскі й Аня Стома.

■ Ладжаньне 11-га зьезду ЗБМА прыпала сёлета аддзелу Саўт-Рывэр—Нью-Брансўік. Кіраўніцтва аддзелу пастанавіла правесьці гэты зьезд у днёх ад 31-га жнівеня да 1-га верасьня на нованабытым беларускім адпачынковым цэнтры „Бэлэр-Менск".

## НЬЮ-ЁРК

■ Моладзь із собскай 40-асабовай аркестрай узяла актыўны ўдзел у парадзе Ляяльнасьці 27 красавіка. У Беларускім Грамадзкім Цэнтры пасьля параду адбылася вечарына прыбытак ад якое пайшоў на аплату транспарту для аркестры, што суправаджала беларускую групу на парадзе. На вечарыне грала аркестра Лявона Рудзінскага, ведамага акардыяніста-га, які цяраз памагаў моладзі на розных міжнародных выступленьнях.

■ Кіраўніцтва аддзелу дало задатак (25 дал.) на набыцьцё аднае акцыі рэсорту „Бэлэр-Менск". Аддзел таксама робіць захады памагчы фінансава арганізаваньню летняга лягеру для дзяцей. З гэтай мэтай 18 травеня быў наладжаны баль у „Нью Нэшэнл Болрум" з удзелам аркестры Янкі Комбы.

■ 12 травеня сёлета на рэсорце „Бэлэр-Менск" быў адзначаны ўрачыстым абедам Дзень Маці. У рыхтаваньні бясёды шмат памаглі сяброўкі ЗБМА Крыся Юрцэвіч і Гіта Ліс.

## КЛІЎЛЕНД

■ 12 травеня супольнымі сіламі зь мясцовым аддзелам БАЗА моладзь адзначыла Дзень Маці. Пасьля багаслужбы для мацярок было наладжанае прыняцьцё. З прамовамі выступілі а. Аляксандар, сп. К. Кіслы, др. С. Грынкевіч і інш.

■ 19 травеня адбыўся сход моладзі для прыйма новых маладых сяброў. Кіраўнік аддзелу К. Калоша даў інфармацыю аб характары й мэтах арганізацыі, пасьля чаго каля дзесяцёх асобаў выпаўнілі заявы.

■ 9 чырвеня адбыўся справаздачна-перавыбарны сход аддзелу. За старшыню сходу быў абраны Ул. Дунец, за сакратара — М. Лук'янчык. Сход аднагалосна ўдзяліў уступаючаму кіраўніцтву (кіраўнік Кастусь Калоша) абсалюторыюм з падзякай. У новае кіраўніцтва ўвайшлі Ул. Дунец (кіраўнік), Ул. Страпко (заступнік), К. Калоша (сакратар), А. Семянчук (скарбнік) і І. Каляда (культурна-асьветны рэфэрэнт); у рэвізійную камісію — С. Карніловіч, Г. Кананчук і М. Яраховіч.

З пачаткам летняга сэзону моладзь займаецца больш спортам. Асабліва папулярныя валейбол, пінпонг, шахматы й біліярд.

## ЧЫКАГА

■ Беларуская моладзь у Чыкаго й ваколіцах задзіночаная ў Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў штаце Іліной (АБАМСІ).

У канцы леташняга году разам зь мясцовым Згуртаваньнем Беларусаў моладзь узяла актыўны ўдзел на Міжнароднай Выстаўцы.

■ 23 сакавіка сёлета адбылося афіцыйнае адчыненьне Інтэрнацыянальнага лётнішча ў Чыкаго. На ўрачыстасьць быў запрошаны Прэзыдэнт Кенэды. З гэтае нагоды мэр Чыкага наладзіў вялікі банкет, на які быў запрошаны таксама старшына АБАМСІ Н. Жызьнеўскі, як прадстаўнік ад Беларусаў.

Галоўным прамоўцам на банкеце быў Прэзыдэнт Кенэды. У сваёй прамове ён зварачаўся праз грамадзкіх дзеячоў да моладзі з заклікам здабываць вышэйшую асьвету, якое вымагае цяпер што раз большы тэхнічны прагрэс Амэрыкі.

■ Ужо больш за тры гады АБАМСІ вядзе сваю радыяпраграму „Нёман". Беларусы Чыкаго й ваколіцаў раз на месяц маюць магчымасьць пачуць

## БАЦЬКОЎСКІ КАМІТЭТ У НЬЮ-БРАНСУІКУ

Цімала высілку ўкладае ў працу з малодшай моладзяй Бацькоўскі Камітэт беларускае калёніі ў Нью-Брансўіку, вельмі шмат дапамагаючы гэтым арганізацыі моладзі. Сёлета, прыкладам, Камітэт наладзіў быў калядны ранішнік для малых, памог малым дарыхтавацца да сьвяткаваньня 25 Сакавіка, Дня Маці й інш. урачыстасьцяў. Укладаная праца дае добрыя вынікі — дзеці задаволеныя з заняткаў, а старэйшыя грамадзяне цешацца з удзелу моладзі ў грамадзкім жыцьці.

Рэдкалегія „Беларускае Моладзі" з удзячнасьцяй адзначае гэты факт ды выказвае спадзяваньні, што і ў іншых асяродках, дзе яшчэ няма бацькоўскіх камітэтаў, старэйшыя памогуць моладзі працаваць грамадзка (а тады напішуць пра гэта нам).



**Група беларускіх дзяцей у Нью-Брансўіку, Н. Дж., на адным із сваіх дзіцячых сьвяткаваньняў.**

сваю песьню, музыку й весткі зь Беларусі ў роднай мове. Радыяпраграма „Нёман" мае вылучна культурна-асьветны характар; яна прысьвечаная нашым паэтам, пісьменьнікам і нацыянальным сьвятам ды перадаецца кажнае трэйцяе пятніцы ў месяцы а 7-й гадзіне ўвечары на хвалі 1240 кц.

**Увага:** Пра дзейнасьць моладзі гл. таксама ў іншым месцы гэтага нумару, у вартыкуле „25 Сакавіка ў Амэрыцы".

### ВІТАЕМ!

**Марыю й Міколу Урыўскіх** з заканчэньнем сярэдняе асьветы.

■ Марыя Урыўская здабыла ўзнагароду ў фінальным конкурсе Асацыяцыі Прэсавых Фатографаў штату Нью-Джэрзы.

■ **Любу й сябру рэдкалегіі „БМ" Міхася Бахараў** з нараджэньнем сына й дачушкі, што павялічылі беларускую грамаду ў Амэрыцы 17 чырвеня сёлета.



## „БЭЛЭР - МЕНСК" АДЧЫНЕНЫ

У канцатыдні 4 - 7 ліпеня адбылося афіцыйнае адчыненьне беларускага адпачынковага селішча „Бэлэр-Менск". Наплыў гасьцей перакрочыў усе спадзяваньні: на рэсорт зьехалася каля 700 асобаў.

Урачыстасьць адчыненьня пачалася 4 ліпеня купальскім вогнішчам, фэервэркамі ды пушчаньнем вянкоў на прылеглым да рэсорту возеры. 5 ліпеня адбываліся спартовыя змаганьні, гульні й іншыя імпрэзы. 6 ліпеня пасьля малебну, адслужанага Уладыкам БАПЦ Васілём у саслужэньні а. а. Аляксандра й Міхаіла ды сьвятара УАПЦ а. Біляка, прэзыдэнт карпарацыі сп. Васіль Юрцэвіч зь дзецьмі ў беларускіх нацыянальных строях (Алеся й Юрка Кіпелі й Міхась Юрцэвіч) прывітаў удзельнікаў урачыстасьці ды із словамі „Беларускай справе, нашым бацьком, дзецям і нам на карысьць" перарэзалі стужку перад уваходам у адміністрацыйны будынак рэсорту. Наступна, ад імя Рады дырэктароў і выканальнага камітэту карпарацыі, др. Вітаўт Кіпель зрабіў агляд дзейнасьці карпарацыі „Бэлэр-Менск", у выніку якое стала магчымым купіць аб'ект, расказаў пра заданьні рэсорту ды падаў пляны далейшае дзейнасьці. Мамэнт, які дакладчык асабліва падкрэсьліў — гэта тое, што купля рэсорту ўжыцьцёвілася, бо беларуская палітычная эміграцыя ў ЗША, адкінуўшы партыйна-групoвы падзел, паставілася да справы з гледзішча на агульна нацыянальную карысьць. Урачыстасьць адчыненьня „Бэлэр-Менску" перарасла ў дэманстрацыю беларускага нацыянальнага адзінства. Усе прамоўцы выказвалі задаваленьне як з куплі рэсорту, гэтак і з таго — і гэта асабліва важна! — што беларуская эміграцыя ў ЗША **пачала дзеіць супольна.**

З прывітаньнямі й прамовамі выступілі ўкраінскія прадстаўнікі сп.сп. Бацюк, Хранавят і пратаерэй С. Біляк ды кіраўнікі беларускіх арганізацыяў сп.сп. Б. Шчорс, др. С. Станкевіч, сп-ня В. Бартуль, Ул. Дунец, ген. Дзямідаў, др. В. Тумаш, А. Несьцяровіч, С. Гутырчык, А. Шукелайць, Э. Ясюк, В. Станкевіч, К. Мярляк. Былі пераказаныя таксама прывітаньні ад а. Пятроўскага ды групы польскіх гасьцей на рэсорце.

---

УВАГА! СЯБРЫ ЗБМА! Чародны зьезд ЗБМА адбудзецца на Лэйбар Дэй на рэсорце Бэлэр-Менск. Старэйшае грамадзтва і ўсе прыхільнікі моладзі ветліва запрашаюцца на зьезд.

---

*У апошнім тыдні жніўеня ў беларускім адпачынкавым цэнтры Бэлэр-Менску будзе наладжаная выстаўка дакумэнтаў, друкаў і мастацкіх абразоў, прысьвечаных стагодзьдзю антырасейскага паўстаньня 1863 г. Выстаўку ладзіць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.*

---

НАПАГАТОВЕ! 11-е сусьветнае скаўцкае Джэмбары адбываецца сёлета ў Грэцыі ў горадзе Маратон. У зьлёце бяруць удзел скаўты блізу 100 народаў. „Беларуская Моладзь" выслала ўдзельнікам Джэмбары прывітаньні ды інфармацыйныя дадзеныя аб беларускім скаўтынгу.

## НАШЫЯ СЯБРЫ



**Ліза Дубовік зь Нью-Ёрку, „князёўна" ЗБМА; рэсорту „Бэлэр-Менск"; закончыла сярэднюю асьвету й вучыцца ў штатным настаўніцкім каледжы ў Нью-Полц, Н. Ё.**



Сяброўка **Гэлена Зарэцкая** жыве ў Бастоне, далёка ад большых беларускіх асяродкаў. Не зважаючы на гэта, Гэля вельмі цікавіцца беларускім грамадзкім жыцьцём, асабліва дзейнасьцяй моладзі. Яна рэгулярна чытае часапіс „Беларуская Моладзь", піша на беларускія тэмы ў школьным часапісе "Distaff". Яна набыла таксама акцыі беларускага рэсорту „Бэлэр-Менск". У сваёй школе, Роксбэры Гай Скул, Гэля ведамая як выдатная вучаніца, зацікаўленая навукай і грамадзкімі справамі.

---

### ЛЕТНІ ЛЯГЕР БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

Сёлета ад 1-га ліпеня на беларускім цэнтры адпачынку „Бэлэр-Менск" адчыніўся ЛЕТНІ ЛЯГЕР МОЛАДЗІ (хлапцы й дзяўчаты ад 9 да 15 гадоў).

У прыгожай горнай мясцовасьці пад наглядам дасьветчаных беларускіх пэдагогаў і спартовых кіраўнікоў — найлепшае месца адпачынку й выхаваньня!

**У праграме лягернага жыцьця:** заняткі зь беларусаведы (мова, літаратура, гісторыя, геаграфія); спорт (басэйн, рыбалоўля, лодкі на возеры, гульні зь мячом, гімнастыка); сьпевы, скокі, краяведныя экскурсіі, вогнішчы, паходы й г. д.

**Бацькі-Беларусы, пасылайце сваіх дзяцей у Беларускі Лягер Моладзі! Першы Лягер Беларускае Моладзі ў Амэрыцы!**

**Цана:** 25 даляраў на тыдзень (зьніжка, калі зь сям'і двое дзяцей ці больш). Па інфармацыі зварачайцеся на адрыс „Беларускае Моладзі" або да мясцовых аддзелаў ЗБМА і СБАМ.

**Дырэкцыя карпарацыі „Бэлэр - Менск".**



### Я, ЦІ АД ЧАГО ПАЧАЦЬ...

(працяг з б. 19)

ёсьць. І пра несправядлівасьць, пра злачынства буду гаварыць увечары, уночы і навет удзень!

Тата ня сьцерплівае, усё дапытваецца, чаго прыйшоў Хведар.

— , , , але найлепш гаварыць удзень і пра зло і пра дабро.

— Не навучай мяне. Памойму, справа твая касіць, а мая ахоўваць парадак... Парадак!

— Зусім праўда — згодзен з табой.

— А чаму не згадзіцца зы мной?

Хведар адыйшоўшы ад таты, зьняў з узплечча стрэльбу, дзьмухнуў пыл зь яе, а тады прынасьціўся пападкай уверх. У вячорным змроку над хлевам, высака ў небе, ляцела нейкая птушка. Ад сьветласьці ў паднябёсах былі добра відаць звахі ейных чорных невялікіх крылаў... Я зірнуў на тату. Сьлёзы, што былі рашчуленыя ад мамінага плачу, прысохлі.

— Я калі страляў па Немцах, дык кажную кулю цалаваў... таму, як бачыш: цэлы і нескалечаны застаўся... У цябе што, нага скалечана? Баліць?

— Ня турбуўся, Хведар, няхай баліць...

— А-а, ты хочаш ведаць, пра што я турбуюся?... Дык скажу: пра ашчаду закону **турбуюся!**

Выйшла мама. У сенцах дзьверы яна адчыніла прытка. На часіну спынілася на ганку, зірнула на тату, а тады шпарка падыйшла да Хведара-палясоўшчыка й пад руку вывяла яго з салібы. Яна не сказала яму ані слова. Толькі ён азіраўся на тату,, і казаў, ступаючы упобач з мамай: — Яна нічога не разумее... Закон ня жарты!... З законам не жарту-у-юць!

III.

Мы пайшлі з татам да ляда. Сьцежка туды ад вёскі прасьціла блізу ад нашай сялібы. У шмат якіх мясьцінах высокія зь медзяністымі гонамікаплямі гусьціліся хвоі й бадай цісnуліся ў пярэпалаху ад пнёў і зба-равелых ламоў. У гэтакіх мясьцінах было, сьцяніста й вадрыста. Тата вёў мяне за руку. Не гаварыў, хоць я ўвесь час апавядаў яму і паказваў хвоі, на якіх знайшоў лясных вераб'ёў ды іншых няведамых птушак.

Я любіў ляда. На маіх вачох яно-ж пакрысе зьнікала. Мне было усёдна, што некалісьці яно належала майму прадзеду, а тады дзеду. Я зайздросьціў майму суседзкаму сябру — ў яго быў дзед, а ў мяне ня было. А потым здарылася — доўга ня было ў дома й таты... А сяньня ён ізноў удома. Як суседзкі хлапчук зь дзедам, я магу хадзіць з ім да ляда... Тата спакметна кульгае на правую нагу, і вочы ягоныя чамусьці апынуліся больш угруніста пад ілбом, а на шыі тоўста выцягнуліся цягліцы...

Учора навет пабіўся з суседзкім хлапчуком, бо ён пакпяліўся нада мной:

— У цябе-ж няма таты, твой тата ў турме, — кпіў доўга ён. І за гэта я набіў яго — быў дужэйшы. А прачнуўшыся — зусім ня тое. Мой тата ўдома, ён памагае маме. Я скрадна пазіраю спад коўдры. Жадаецца падбегчы да яго, але ня верылася яве. Я сьніў і памятаў сны. Заўсёды пасьля сноў спатыкалася раніцай зусім іншае.

Тата спакмеў мае зрэнкі.

— Уставай, сынку! Я зноў удома!

Ягоная салоная сьлязіна спала на мае вусьніны. Я таксама заплакаў: учарайшая крыўда ад суседзкага хлапчука яшчэ больш смутней успомнілася . Мае вусны прыціснуліся да ўсягo, найперш напатканага на татавай постаці. Ён цалаваў маю галаву... Я вырваўся зь ягоных рук, схаваўся пад коўдру. Зноў падумалася пра сны.

— Няхай адумаецца, — сказала

мама, і таксама пяшчотна дакнулася даланёй да мае шчачыны. Тата падаўся да дзьвярэй... Я ускокваю, бягу за ім. Каля дзьвярэй тата й мама, падняўшы мяне на ўлоньні, заплакалі. Плакаў і я, абнятна трымаючы іх рукамі...

— Ты ўжо падрос, — загаманіў тата і сеў на пень.

Я скалануў плячыма — не паверыў. Мне было дзевяць год. Я разумеў — хадзіў у школу — што 35 або 40 шмат больш, чымсьці дзевяць.

— Нічога, сын... не барзьдзі — падрасьцеш...

Тата абламаў паўзялёную галіну ад сьсечанай хвоі, агледзеў яе, і няведама дзеля чаго, уторкнуў каля пня.

— А ты-ж хадзіў сюды бязь мяне?

— Але, тата. Я грыбы знаходзіў тут.

— Маладзец, сын...

Мы пайшлі каля вялізнага каменя. З брацеьнікам я напалову ачысьціў яго ад моху. Пасьля дажджоў выпаласканыя расшчэпіны чарнеліся па камянёвай аблегласьці. Тата пазнаў зьмену.

— Напэўна ты зрабіў?

— Я, тата.

— Я таксама гуляў каля гэтага каменя.

Ад каменя мы пайшлі да ўзьлеску. Там нам заўсёды намервалі сялібную дзялянку. На ёй садзілі бульбу. Крыху далей, у канцы гоняў, ува ўшчалопку стаяў помнік па нейкіх воях, ён аброс асіньнікам ды ялінцам. Крылы ўзьлётныя ў мэталёвай птушкі былі прастрэленыя. Я й іншыя вясковыя дзеці любілі лазіць на гэты помнік. Трымаючыся за ногі мэталёвай птушкі, стуль прыемна было плёваць далоў.

Тата спыніўся. Доўга азіраў мізэрны прасёл ад барознаў бульбы да лесу й помніка. Там рос сьвіны кроп і мядзьведзевы вухі. Я люблю траву „мядзьведзевы вухі", ейныя мяккія лісьце вельмі часта вылечвалі мяне ад хваробы шыі. Я адарваў найбольшы ліст, даў тату.

— Як пух мяккі, — сказаў ён, і не пазіраючы на мяне, лёпаў „вухам" па штаніне. Ён усё азіраў ушчалопак.

— З магілу вялічыні, а ледзь у магілу не загналі, — прагаманіў тата.

Я ведаў, пра што тата гаварыў. Яно было большае, чымсьці навучаньне ў школе, непараўнальнае, што наслухаўся ад старой цёткі пра ўсялякія прыгоды ў казках...

— Прыгожа сяньня...

Ці было прыгожа, ці няпрыгожа — над гэтым я не раздумоўваўся. Быў рады: тата зы мною, і я маю тату. Я ад прыгожай радасьці абняў яго за калены — мне жадалася падняць яго... Тата заплакаў. Я ня ведаў, як захоўвацца — адно пазіраў на яго. А тады ён пачаў кашляць.

— Там птушкі вяліся, — мне сталася лягчэй, калі ён закашляў...

Ён адламаў з асіны сухі стромкі сук.

—Цяпер трэба знайсьці камень.

— Вунь там, пад хвояй, — я ведаў кажны ступок гэтае зямлі.

— Угонім...

Я глядзеў, як тата уганяў асінавы адломак у канцы барознаў бульбы.

— Ніколі не пераходзь аж за гэты кол.

— Добра, тата — ніколі, — адказаў я.

...мама гаварыла: тату асудзілі за тое, што неасьцярожна заараў чужую зямлю, і Хведар напісаў віну на яго.

Калі вярнуліся зь ляда й ад барознаў бульбы, я хацеў зноў пацалаваць тату. Суседзкі хлапчук праз замёт назіраў за намі. Я адразу спакмеў яго. Кажная пралёціна замёту суседзкай сялібы была мне ведамая. — Няхай глядзіць: у мяне ёсьць тата.

Аднаго дня таты зноў нястала. Вясьнянай раніцай каля ложка, дзе

(гл. б. 32)



Б. Міхалюк

## КРЫЖАСЛОЎЕ № 3

**Увага! У крыжаслоўі мяккія знакі й апострафы прапушчаюцца.**



**Гарызантальна:** 1. Частка галавы, 5. Каштоўны камень, 9. Прымітыўная малатарня, 12. Частка воза, 13. Саланіна, 14. Равы, 15. Мужчынскае ймя, 16. Бывае ўзімку на дрэвах, 17. Пазнаецца нюхам, 18. Вузкі праход, 20. Хавай, 22. Імі плацяць Японцы, 24. Сіла й права, 30. Дакумэнт, 32. 901 (рымскімі), 33. Сьвята ўвесну, 35. Мае сыпкасьць, 37. У іх хаваюць бульбу, 38. Шпаркі (без галосных), 40. Прыналежную да Раі, 41. Займеньнік у родным склоне, 43. Возера на Віленшчыне, 45. Дзявоцкае ймя, 47. Асабістыя рэчы, 51. Царкоўны чын, 53. Як конь, 55. Аблеплеваньне сьценаў, 56. Пра, 57. Хатнія жывёліны, 58. Каханьне (палаціне), 59. Дробны пясок, 60. Бывае ў опэры, 61. Морскага волата.

**Вэртыкальна:** 1. Рабіць тканіну, 2. Свабода, 3. .... Гарун, 4. Беларуская князёўна, 5. Дрыжачае дрэва, 6. Край Цэнтральнай Амэрыкі, 7. Ды, 8. Сьвятло (паангельску), 9. Беларускі асьветнік XVI веку, 10. Пара, эпоха, 11. Успых, 19. Іншым спосабам, 21. Я (пацаркоўнаславянску), 23. Няведамы лік, 25. Арабскі край, 26. Сталіца нашага суседа, 27. Пароснаму, 28. Тыбэцкі сьвятар, 29. Аўтэнтычны, 31. Дэспат, 34. .... Саўд, кароль Арабіі, 36. Аснова, 39. Хвастатыя зоркі, 42. Або (паангельску), 44. Праўда, 46. Ноеў карабель, 48. Гэнымі, 49. Частка лямпы, 50. Рыбіны яйкі, 51. Конская хвароба, 52. Хоць як, 54. Гарачае вугальле.

### Я, ЦІ АД ЧАГО ПАЧАЦЬ...

(працяг з б. 30)

ён спаў, стаяла шклянка вады, але яго ў ложку ня было. Мне не спадабалася — тата пайшоў гадаваць дзікіх зайцоў безь мяне... Я глянуў праз вакно. Панадворак ачышчаны ад сьнегу. На ім зноў больш жарсьцьвяніку нагняло паводкай. Ішоў вясьнявы дождж.

---

Мама заўсёды барзьділа на працу. Я мусіў уставаць таксама рана. Пасьнедаўшы, калі было добрае надвор'е, я рана пакідаў хату. Па дарозе да школы наведваў сяброў... або завітваў найбольш, чым да сяброў, на магіліцы. Там быў пахаваны мой тата. Я ўсё шкадаваў, чаму не папытаўся ў яго: ад чаго пачаць, каб быць дарослым... мне жадалася як найбаржджэй моцы зьнішчыць крыўду.

1962



### НЭКРАЛЁГІ

**1 красавіка 1963 г. раптоўна памёр** сьв. пам. **Яўхім Талмачавец.** Нябожчык пахованы на беларускім могільніку ў Саўт-Рывэры. Рэдкалегія „БМ" выказвае глыбокае спачуваньне сп-ні Юліце Талмачавец ды сыном Васілю й Паўлу зь сям'ёй з прычыны балючае ўтраты іхнага мужа і бацькі.

---

4 травеня 1963 г. памёр, пражыўшы адно 42 гады, сьв. пам. **Геранім Хмура,** асіраціўшы сваіх дзяцей Адвардага, Кацярыну, Аркадзя й Натальлю ды пакінуўшы ў глыбокім суме жонку **Тацяну.**

Рэдкалегія „БМ" выказвае глыбокае спачуваньне жонцы й дзецям Нябожчыка, а таксама ягоняй маці Адэлі, брату Язэпу й спадарству Рудзькам.

Пахаваны сьв. пам. Г. Хмура на беларускім могільніку ў Саўт-Рывэры.

